# НАТО дамагаецца атама

Гісторыя старанняў, каб НАТО атрымала атамныя бомбы і галоўкі, пачалася ад пэўных намаганняў Заходняй Германіі. Спярша непрыкметна, а вясною 1962 года цалкам афіцыйна Штраус і яго генералы выступілі на Савеце Пакта з мемарыялам аб атамным узбраенні Бундэсверы.

Праўда, хаця ў выніку гэтых намаганняў амерыканцы не згадзіліся аснасціць Бундэсверу атамнымі снарадамі, аднак дапусцілі яе да кантролю ўласных арсеналаў, размешчаных ў ФРГ. Адначасова ЗША абяцалі, што падумаюць аб справе ператварэння НАТО ў чацвёртую атамную дзяржаву. Такім чынам яны крыху абнадзеілі больш ваяўнічых партнёраў Пакта, якія, карыстаючыся гэтым, пачалі цэлым гуртам пхацца са сваімі жаданнямі і намаганнямі.

Дагэтуль найбольш тут пашанцавала Вялікабрытаніі, якой не хапіла ўласных грошай, каб зрэалізаваць надта ж дарагую праграму ракетна-ядзернага ўзбраення. У канцы мінулага года гэтая дзяржава падпісала на Бермудах з амерыканцамі дагавор аб пастаўцы ёй ракет «Палярыс» і аб удзеле ў пабудове атамных падводных лодак. Аднак амерыканска - брытанскае пагадненне сустрэлася ў Парыжы і Боне з вялікім незадавальненнем. Найбольш уражаным аказаўся дэ Голь і ў палове студзеня г.г. прадказаў стварэнне уласнай нацыянальнай нуклеарнай сілы. Гэты факт стаўся для Адэнаўэра дасканалай аказіяй, каб зварухнуць з месца і сваю справу. Ён пачаў дзейнічаць у двух напрамках. Спярша падпісаў трактат з Францыяй у якім прадбачваецца супольная палітыка аб узбраенні, а пасля пачаў шантажаваць Амерыку. Нядаўна нават выслаў у ЗША новага міністра абароны фон Гаселя. Той заявіў прэзідэнту ЗША недвухсэнсава, што калі амерыканцы не паспяшаюцца са сваёй атамнай афертай, дык ФРГ будзе і надалей шчыльна прымыкаць да Францыі.

Такім чынам Злучаныя Штаты апынуліся перад небяспекай сур'ёзнай трэшчыны ў НАТО. А гэта ў выніку прывяло б да аслаблення пазіцыі ЗША ў Заходняй Еўропе. Каб не дапусціць да новых трэнняў, яны выслалі ў Парыж, дзе размешчана камандванне НАТО, асабістага прадстаўніка прэзідэнта Кенедзі, Мерчанта, з гатовым ужо тэкстам прапаноў.

Паводле друку гэтыя прапановы выглядаюць вось як: — ва ўлонні НАТО ўзнікне нуклеарная марская сіла са снарадамі «Палярыс». Спачатку гэтымі ракетамі будуць аснашчацца падводныя лодкі, таму што еўрапейскія краіны пакуль што яшчэ не ў сілах будаваць атамныя падводныя лодкі;

— ЗША прададуць ракеты «Палярыс», аднак без нуклеарных галовак;

— ЗША уключаць у сілы НАТО тры атамныя падводныя лодкі, якія зараз знаходзяцца ў Міжземным моры;

— Гэтая шматнацыянальная сіла кантралявалася б спецыяльным выканаўчым камітэтам ў складзе 4—5 прадстаўнікоў — вядучых членаў НАТО; ЗША хацелі б захаваць тут права «вета».

Зразумела, што гэтыя прапановы не задаволілі ніякую з дзяржаў — галоўных прэтэндэнтаў да атамнай зброі.

Францыя ўвогуле збайкатавала размовы. Вялікабрытанія выступіла з многімі агаворкамі па пытанні аб кантролю і выявіла сваё незадавальненне, што паменшаюць тут яе ролю. Заходняя Германія выступіла супроць нармальных караблёў і заявіла, што хоча адразу мець атамныя падводныя лодкі. Атмасфера націску на ЗША не зменшылася тады, а яшчэ больш узрасла. З другога ж боку Вашынгтон добра разумее, што залішнія ўступкі, напрыклад, у галіне кантролю, спрыялі б яшчэ большай незалежнасці еўрапейскіх партнёраў. А гэтага амерыканцам вельмі не хочацца.

У такіх умовах мы можам стацца сведкамі далейшых разыходжанняў у НАТО.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## З архіўных матэрыялаў

# Станіслаў Манюшка аб беларускім часопісе

Незвычайна каштоўнымі з'яўляюцца для нас даўнія праявы сардэчных адносін лепшых прадстаўнікоў польскай культуры да беларускага народа. Пэўны свет на гэтае пытанне кідаюць розныя мемуарныя запісы, пісьмы ці проста выказванні, запісаныя сучаснікамі. Многія з гэтых крыніц у выніку ваенных падзей аказаліся знішчанымі або проста былі недзе закінутымі людзьмі, якія не ведалі вялікай вартасці такіх дакументаў. Тое, што ўцалела да нашых дзён уяўляе неацэнны матэрыял, да якога будзем звяртацца, каб даказаць, што лёс беларускага грамадства ў перыяд яго зняволення не быў абыякавым для такіх людзей, як Адам Міцкевіч, Уладыслаў Сыракомля, Станіслаў Манюшка, Марыя Канапніцкая ці Эліза Ажэшка.

Сёння хочам звярнуць увагу на ліст выдатнага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі да літаратара і музычнага крытыка Аляксандра Валіцкага.

У лісце творцы «Галькі» да А. Валіцкага, высланым з Вільні 3 снежня 1849 года (ліст захоўвае Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве), знаходзім наступны сказ:

**„Podbereski Pamiętnika tom pierwszy ukończył, drugi zacznie się po nowym roku, zdaje się że będzie redaktorem pisma Białoruskiego, o którem znowu mówić zaczynamy — Syrokomla przyjeżdża na kilka tygodni do Wilna, zdaje się, że wspólnie coś napiszemy..."**

Больш падрабязнасцей у лісце аб гэтай каштоўнай задуме не знаходзім. І на колькі нам вядома, да здзяйснення яе ніколі не дайшло. Аднак ці ж гэта звальняе нас ад абавязку ўдзяліць хаця б крыху ўвагі планам кампазітара і яго сяброў? Чытачы напэўна звярнулі ўвагу, што Манюшка піша тут у множным ліку, калі сцвярджае, што Падбярэскі будзе рэдактарам беларускага часопіса, «аб якім ізноў пачынаем гаварыць». З гэтага можам зрабіць вывад, што склалася група людзей, якіх гэтае пытанне хвалявала. А нашае знаёмства з тагачасным грамадскім і літаратурным рухам дазваляе меркаваць, што да гэтай групы належалі ў першую чаргу Ул. Сыракомля, В. Каратынскі ну і зразумела сам кампазітар.

Невыпадкова размова ішла тут аб Падбярэскім як рэдактары часопіса. Гэты літаратар і выдаўца „Pamiętnika Naukowo-Literackiego" у Вільні ўсімі сіламі спрыяў публікаванню на яго старонках твораў, пачэрпнутых з беларускай вусна-паэтычнай творчасці і сам з вілікай сімпатыяй ставіўся да маладых беларускіх талентаў.

У прыгаданым намі фрагменце з пісьма Станіслава Манюшкі даведваемся, што ён сам і Уладыслаў Сыракомля планавалі штосьсь разам напісаць да часопіса. Магчыма, што гэта з'яўляўся б тэкст на беларускай мове, калі ўлічым, што яны добра валодалі ёю, а Сыракомля нават пісаў на беларускай мове свае паэтычныя творы.

Пытанне аб пашырэнні асветы на Беларусі хвалявала ў тыя часы шмат якіх прадстаўнікоў польскага грамадства і толькі ў такім святле мы павінны разглядаць планы выдавання часопіса на беларускай мове. Адзначым, што многа ў гэтым напрамку рабілі прадстаўнікі сям'і Манюшкаў: бацька кампазітара Чэслаў Манюшка і яго браты — Дамінік, Казімір і Юзэф. На гэты факт звяртае ўвагу Вітальд Рудзінскі ў сваёй манаграфіі аб творцы «Галькі» («Станіслаў Манюшка», Кракаў, 1955). Калі адзначым яшчэ шчыльныя сяброўскія сувязі Ст. Манюшкі з беларускім пісьменнікам Вінцэнтым Дуніным - Марцінкевічам, іх творчае супрацоўніцтва, калі падкрэслім, што многія творы кампазітара ўвабралі ў сябе шмат з беларускага песеннага меласу, тады складзецца цікавая карціна, якая сведчыць аб шматлікіх нітках, моцна звязваючых польскага кампазітара з Беларуссю.

**Мацей КАНАПАЦКІ**

# Хроніка БГКТ

■ 1 сакавіка ў Варшаве адбылося апошняе пасяджэнне прамыслова - гаспадарчага праўлення «Бэтэска» супольна з прэзідыумам Галоўнага праўлення БГКТ. На ім быў абмеркаваны змест дагавора аб перадачы маёмасці гэтага прадпрыемства спулдзельні працы. Абмяркоўваўся таксама баланс ГП БГКТ на 1963 год.

■ На нядаўна адбыўшымся пасяджэнні праўлення Варшаўскага аддзела БГКТ у павестцы дня быў наступны пункт: справы падрыхтоўкі канферэнцыі аддзела, якая запланавана на 11 мая.

■ Па ініцыятыве Бельскага аддзела БГКТ, аддзел асветы прэзідыума Павятовай рады нарадовай закупіў для беларускіх школ 45 польска - беларускіх слоўнікаў.

■ 4 сакавіка адбылася чарговая нарада інструктараў Галоўнага праўлення БГКТ, на якой найбольш часу было прысвечана справам склікання справаздаўча - выбарчых канферэнцый у паасобных аддзелах.

■ Да агляду мастацкіх калектываў БГКТ у Сямяціцкім павеце рыхтуецца 7 вясковых драмгурткоў, а менавіта мастацкія калектывы гурткоў БГКТ у Рагачах, Зубачах, Вульцы Нурэцкай, Верполю, Мілейчыцах, Семіхочах і Вычулках.

■ Сакольскі аддзел рыхтуе да павятовага агляду мастацкіх калектываў БГКТ драмгурткі ў Піражках, Паўночным Востраве, Новым Востраве, Талькоўшчыне, Гуранах і Грыбоўшчыне.

■ Пры пачатковых школах у Рыбалах і Кожыне (Бельскі павет) існуюць праблемныя курсы беларускай літаратуры. У першым курсе бярэ удзел 18 асоб, а ў другім — 12.

■ Нядаўна ў гуртку БГКТ у Вульцы Нурэцкай адбыўся справаздаўча - выбарчы сход. Старшынёю гуртка члены БГКТ выбралі Анатоля Мартыновіча.

■ Гурток БГКТ у Войшках пад кіраўніцтвам Аляксандра Барташука выязджаў нядаўна з пастаноўкаю п'есы В. Дуніна - Марцінкевіча «Пінская шляхта» ў суседнюю вёску Дзяніскі (Бельшчына).

■ Па ініцыятыве Бельскага аддзела БГКТ і Павятовага дома культуры выступаў у Бельску - Падляшскім Украінскі калектыў песні і танца з Любліна.

# Спорт

Можна гаварыць, што футбольны сезон у нас ўжо адкрыты. У мінулую нядзелю адбыліся тры залеглыя матчы на права ўваходу ў чвэрцьфінал у гульнях на Кубак Польшчы. Сенсацыйна закончылася тут сустрэча пershалігавага ЛКС Лодзь з трэцялігавым Гурнікам Торэз. Выйгралі трэцялігаўцы.

Але не футбол звяртаў на сябе ў мінулую нядзелю ўвагу нашых балельшчыкаў. Іх вушы былі накіраваны на Бухарэст.

Там адбывалася баксёрская сустрэча на Кубак Еўропы паміж зборнымі Румыніі і Польшчы. Выйгралі румыны 14:6. У магчымасць перамогі нашай каманды (улічваючы сучасны стан) мала хто верыў, але хіба таксама мала было скептыкаў, якія прадказвалі б так высокае паражэнне. Наўрад ці ўдасца ўзяць рэванш у сябе. Як вядома, другі матч адбудзецца ўжо 17 сакавіка ў Лодзі. Каб атрымаць права на далейшыя гульні, нашы баксёры павінны выйграць яшчэ з вышэйшым вынікам, чым гэта зрабілі румыны ў сябе. Калі нашы баксёры не справяцца з гэтай задачай, будзе не малая сенсацыя. Як бы ні было, адзін з галоўных прэтэндэнтаў на першае месца выбудзе на пачатку гульняў.

Няма рады, наш бокс перажывае крызіс, які апошнімі часамі выразна адчуваўся ў гульнях зборных. Радуюць затое беластоцкія юніёры. У чарговым (выязным) матчы на Кубак ТККФіТ выйгралі яны са зборнай Варшавы і цяпер рашуча вядуць у сваёй адборачнай групе.

**Аут**




### АБ НАС НІВОДНАЙ ДУШЫ

Стоячы ў канцы калідора, Аскер бачыў, як Герберт супакойваў жонку.

— Ну, хопіць, не плач, — мармытаў ён, гладзячы яе валасы.

— Як... як гэта здарылася? — шаптала жанчына. — Дык ты...

— Здарылася памылка. Дзе Розі?

— Ой!.. Ты ж не бачыў яе яшчэ!

Лізель хацела было ісці ў пакой. Герберт узяў яе за руку.

— Мне нельга да яе.

— Чаму, Герберт?

— Вытлумачу потым. Пакуль запомні: Розі не павінна ведаць, што я прыехаў. Ні Розі, ні сваякі, ні суседзі. Ніхто, ясна?

Жанчына разгублена кіўнула.

65

— Мы прыехалі тайна, па спецыяльнаму даручэнню. Вельмі важнае даручэнне для Германіі, ясна?

Лізель зноў кіўнула.

— Розі спіць?

— Так, бедная толькі што заснула. Мы перажылі такую ноч!..

— Слухай, Лізель. Мы пойдзем на кухню. Ты разбудзіш Розі, адзенеш і адвядзеш да сваёй маці. Скажы, што ты будзеш занята, мабілізавана, або нешта ў гэтым сэнсе. Словам, Розі павінна прабыць там два дні. І хутчэй вяртайся.

— Добра, Герберт.

— Толькі яшчэ раз папярэджваю: пра нас ніводнай жывой душы. Дык я прапаў без вестак, так? Ты такое пісьмо атрымала?

— Так.

— Ну, вось і добра. Прапаў, значыць прапаў.

Падышоў Аскер.

— Мяне завуць Краўзе. Курт Краўзе. Мы прыехалі разам. Я сябар вашага мужа. Ён так усхваляваны сустрэчай з вамі, што забыў прадставіць...

— Лізель, — сказаў Ланге, — Курт Краўзе мой самы вялікі друг. Ведай; каб не ён, я не быў бы цяпер тут. Ды і наогул...

— Дзякую вам! — Лізель працягнула руку. Аскер пацісн уў яе.

— У мяне да вас просьба, фрау Лізель, — сказаў Аскер. — Вы павінны весці сябе так, быццам нічога не здарылася. У вас пачырванелі вочы. Трэба асвежыцца, супакоіцца, а ўжо потым ідзіце.

66

Аскер і Ланге пайшлі ў кухню. Спачатку яны чулі журчанне вады ва ўмывальніку. Затым раздаліся крокі Лізель. Да іх данёсся яе голас і лепет дзяўчынкі. Прайшла яшчэ мінута. Вось хлопнулі дзверы, і ў хаце стала ціха.

Герберт і Аскер выйшлі, падыйшлі да акна. Па дарожцы ішла Лізель, вядучы за руку Розі. Аскер скасіў вочы на таварыша. У Ланге дрыжаў падбародак.

Аскер абняў яго.

— Хочаш сігарэту?

Ланге кіўнуў. Пакурылі, седзячы на старэнькім дыванчыку. Аскер падняў вочы і ўбачыў на сцяне партрэт Герберта, абвіты жалобнай стужкай.

— Зусім як у Марка Твена, — пажартаваў ён, каб разрадзіць становішча. — Амаль што прысутнічаеш на ўласным пахаванні.

Ланге ўстаў, накіраваўся да партрэта.

— Не рушай!

Ланге затрымаўся, заклапочана паглядзеў на таварыша. Сцяміўшы, кіўнуў.

— І жонцы скажы, як прыдзе.

— Ясна...

Яны прайшлі ў ванную. Умыўшыся, вярнуліся ў пакой.

67

# ВЕСТКІ З БССР

## МАЛАДОСЦЬ



Доктар біялагічных навук прафесар Алена Кесарава з групай студэнтаў на практычных занятках.

Чаша маскоўскага стадыёна «Дынама», калі глянуць зверху, нагадвае вялізны смарагдовы дыван, аблямаваны велізарным вянком жывых кветак. Дыван — футбольнае поле, вянок — трыбуны, запоўненыя святочна апранутымі гледачамі. Яны маўчаць, скіраваўшы свае погляды на незразумелае металічнае збудаванне, устаноўленае ў цэнтры пустога поля.

Раптам з рэпрадуктараў вырываецца голас дыктара: «Выступаюць студэнты Беларускага тэхнікума фізічнай культуры!» І адразу пад бадзёрыя гукі спартыўнага марша на зялёнае поле, адбіваючы крок, выходзіць бронзавацелая калона спартсменаў... Марш змяняе плаўная мелодыя вальса. Імгненне, а ў цэнтры дывана ўзнікае велічная ваза з жывых чалавечых цел. Шквал авацыі над стадыёнам. Такога Масква яшчэ не бачыла...

Гэта было апошняе выступленне мінскіх студэнтаў тэхнікума фізічнай культуры на традыцыйных урачыстасцях у гонар Усесаюзнага дня фізкультурніка. Праз некалькі дзён пастановай Савецкага ўрада за «абразцовую пастаноўку справы падрыхтоўкі кадраў фізічнай культуры і за высокія спартыўна-фізкультурныя дасягненні» тэхнікум быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і рэарганізаваны ў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры.

З таго незабыўнага дня прайшло чвэрць стагоддзя. Першы выпуск спецыялістаў фізічнага выхавання адбыўся ў грозны 1941 год. Маладым педагогам не давялося заняцца мірнай працай у школах. Гітлераўскія полчышчы акупавалі Савецкую Беларусь. І проста з інстытуцкіх аўдыторый, з дыпломамі настаўнікаў, былыя студэнты пайшлі на фронт, каб са зброяй у руках бараніць свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы




Галоўны корпус інстытута.



Старшы выкладчык Георгій Клецоў (злева) сканструяваў апарат «Пнеўмадынамограф», які дазваляе рэгістраваць умовы грэбкавых рухаў і хуткасць пасоўвання плыўца.

Адгрымелі гады вайны, з попелу і развалін устаў новы Мінск — сталіца Беларусі. Аўдыторыі інстытута фізкультуры зноў запоўніла шумная моладзь. Пачаўся новы этап у яго жыцці.

...Горад Берн. Нястрымана ірвецца наперад па чорнай стужцы бегавой дарожкі спартсмен у алай майцы з гербам краіны Саветаў на грудзях і першым датыкае фінішнай стужкі. Над

(Працяг на стар. 5)



Майстры спорту па акрабатыцы, выпускнікі інстытута Мікалай і Аляўціна Туманавы рыхтуюцца да спаборніцтваў на кубак спартыўнага таварыства «Буравеснік».

## ГАЛЕНА, ЁЗІК І ДЗЕЦІ...

Калі праз тры гады Ёзік Зіневіч вярнуўся з турмы ў родны Гарадок, пахмурны лістападаўскі дзень выдаўся яснейшым. Вакол ціснуліся дзеткі дарагія — Крыстынка, Данка і Зюнё. Замітусілася ля пліты жонка Галена. Цешылася. Але ў бляску яе вачэй Ёзік адчуў нешта халоднае, аж сэрца неспакойна забілася. Што праўда, лёс нешчаслівы бязлітасна абышоўся і з ёю, пакінуў адну з пісклятамі на ласку людзей. Прымусіў цяжка зарабляць у фабрыцы на хлеб.

Ды не аб тым падумаў Ёзік, гледзячы на сваю жаўтадзюбую сямейку. Яму да болю ўспомніўся ліст дачкі, які атрымаў напярэдадні яшчэ першай турэмнай вігіліі перад Калядамі. Прачытаўшы крывыя словы, заплакаў ён, мабыць, упершыню ад часоў пастушынага дзяцінства. На сіняй школьнай картцы малютка прасіла ў бацькі ратунку ад холаду, голаду, бо маці ў шпіталі апынулася. Чаму ў шпіталі? Ёзік не гадаў, а дачушка не ведала. Пасля ўжо дайшлі нядобрыя слыхі пра кавалерскія папойкі і жончынае знаёмства з гулякаватай кабецінай, Буранкай званай. Жыве яна ў той самай хаце, за сцяною, дзе здаўна загняздзілася славутая патаемка. П'яныя спевы і дзікія візгі не давалі Зіневічам спаць часта цэлымі начамі. Ёзік лаяўся тады на дурную суседчыну весялосць, Галена, нявыспаная, плакала і марыла аб асобнай кватэры. Усхапляліся зосну малышы. А цяпер яна, Галена, знюхалася з ёю, такой п'янюжкай ды валакітай?! Верыў-не верыў... Усё ж, як не кажы, пражылі дванаццаць год. Згодна, спакойна пражылі.

(Працяг на стар. 4)

---

Аскер сказаў:

— Прыдзе Лізель, папрасі яе схадзіць да Шталекераў. Хай паспрабуе даведацца, што за людзі былі ў хаце, што там здарылася.

— Мо' спярша паснедаем?

— Не шкодзіла б.

Неўзабаве вярнулася Лізель. Яна паведаміла: бабуля вельмі ўцешылася ўнучцы. Розі прабудзе ў яе тры дні.

— А цяпер снедаць, — сказаў Ланге. — Прыдумай нешта, Лізель. Сёе-тое знойдзеш у маім чамадане. Распакуй той, што большы.

Лізель выйшла з пакою.

— Добрая яна ў цябе, — ціха сказаў Аскер.

— Яшчэ б! — Ланге падняў на Аскера шчаслівыя вочы. — А ты? Твая жонка... — Ён не дагаварыў, убачыўшы, што таварыш чымсьці заклапочаны.

— Перадатчык! — ціха сказаў Аскер.

Ланге кіўнуў, адчыніў чамадан Аскера. На дне чамадана была невялічкая металёвая скрынка, Ланге выцягнуў яе. Затым ён і Аскер прайшлі ў кухню. Лізель вазілася ля пліты.

— Скажы, Лізель, памыйнае вядро — гэта тое, што стаіць у кутку?



— Так, Герберт. — Жанчына ўсміхнулася. — Ты ж ведаеш, яно заўсёды там стаяла.

— Заўсёды, маеш рацыю. — Ланге накіраваўся да вядра.

— Але навошта яно табе, Герберт? Ці не думаеш ты выносіць яго сам?

— Так, Лізель. Буду выносіць увесь час, пакуль мы тут, у Остбургу. Ты ж не павінна да яго дакранацца. Лі і кідай у яго, што папала, але — не рушай яго, ясна?

— Не, Герберт...

— Лізель, — сказаў Ланге, паказваючы на скрынку, — гэта штука вельмі для нас з табой дарагая.

— Гэта золата, Герберт?

— Больш, чым золата. Ясна?

— Так, — няўпэўнена сказала Лізель.

— Ну, вось і добра. Я хацеў пакінуць яе ў чамадане, але разважыў, што так будзе небяспечна.

— Небяспечна, Герберт?

— Уяві, што ў хату забраліся зладзеі. Куды яны перад усім палезуць? Зразумела, у чамаданы.

— Цяпер шмат зладзеяў, Герберт. Зусім нядаўна абакралі памяшканне па-суседску. Вынеслі літаральна ўсё.



— Вось бачыш! Ну, а якому злодзею ўзбрыдзе ў галаву шукаць каштоўнасцей на кухні, ды яшчэ ў памыйным вядры?

— Так, Герберт, у вядро не палезе.

— Значыць, вырашана. Глядзі, я апускаю скрынку ў вядро.

— Жанчына кіўнула, хоць усё яшчэ дрэнна разумела мужа.

— Глядзі, Лізель, як спрытна — яна зусім схавалася пад бульбяным шалупіннем.

— Скрынка так і будзе знаходзіцца ў вядры?

— Так, там ёй нічога не стане. Футляр не прапускае вады. А калі трэба будзе, мы яе вымем і апаласнем. Толькі, Лізель, аб скрынцы ніхто не павінен ведаць.

— Усё будзе так, як ты скажаш, Герберт.

— Вось і цудоўна. А цяпер есці. Мы такія галодныя, што, здаецца, з'ямо адзін аднаго.

### АПОШНЯЕ ДАРУЧЭННЕ ЛІЗЕЛЬ

— Лізель, ты ўсё яшчэ сябруеш з Бертай Шталекер? — спытаў Ланге, калі паснедалі.

— А як жа, Герберт! Яна вельмі добрая. Толькі цяпер ёй шмат дастаецца.

— Не разумею. У іх жа дзяцей няма.

(Працяг на стар. 4)

# ЯНЫ АДЖЫЛІ СВОЙ ВЕК

(Працяг са стар. 1)

Стары чалавек, жывучы на ласцы дзяцей, падобны да аўтамата. Ён так застрашаны, што баіцца кепскага слова сказаць перад кім, бо тады зусім з дому ўцякай. Помню, як раз мая маці вынесла Блюднікавай малака і хлеба. Яна глытала яго, але разам і глытала слёзы, просячы, каб нікому не гаварыла, што ёй кепска, што дачка здзекваецца. Гэта ж сорамна людзям сказаць, калі ўнучка настаўніца, калі ёсць у хаце адукаваны чалавек, а бацькі здзекваюцца над старой.

### ЛЕТНЯЯ КУХНЯ

У вёсцы Бацюты жыве бабулька Марыя Дэпчынская. Нарадзіла сем сыноў, з якіх тры жывуць і цяпер — Мітрафан, Аляксей і Уладзіслаў. Калі яны былі кавалерамі, бяда была папалам, а калі пажаніліся, старой няма месца. Аляксей жыве недзе ў Маскве, Мітрафан і Уладзіслаў жывуць прыпяваючы ў роднай вёсцы. Ды жонак пабралі з сваёй вёскі. Кажуць, што лепшыя гаспадыні. І сапраўды было б добра, каб не маці. Жонка Мітрафана Вера спачатку неяк ладзілася, хоць паглядала крыва. Потым, калі старая занемагла, яна ў крык: «Не хачу, каб старая тут смуродзіла». Маці зрабілася крыўдна: «Я цябе, сынок, гадавала, вучыла, а на старыя гады ўласнага кутка не маю. Калі ты гэткі, пайду да Уладка. Ён чалавек вучоны, працуе ў Беластоку. Ён мяне не пакіне».

Сын як сын, не можна кепскага сказаць, а нявестка Ніна ў крык: «Гэта старая мне жыць не дае!»

— Што рабіць з маткаю? — раяцца браты. — Давай зробім старой куток у летняй кухні, хай жыве.

Паставілі печку, крыху ачысцілі. А карміць хто будзе?

— Ты прынясеш, я прынясу, галодная не будзе.

І вось гэта за працу цэлага жыцця, за ўсё сваё ўласнае. Ці ж гэта не крыўдна? Але жонкі задаволены, што ніхто не перашкаджае.

### ЭКАНАМІЧНЫЯ ТРУПЫ

Калі я быў на сесіі ГРН у Завадах, там многа гаварылася аб падняцці гаспадарак на вышэйшы ўзровень. Гаварылася аб планах нарыхтовак дзяржаве. І тут менавіта палі словы «эканамічныя трупы». У час дыскусіі я даведаўся, што эканамічныя трупы — гэта тыя старыя, якія маюць маёмасць, зямлю, але не плацяць за яе падатку. Эканомія, трупы — проста смех, аднак смяяцца тут няма з чаго. Тут старшыня Васілеўскі са скуры вылазіць, каб выканаць план, а на такіх людзях выкананне плану завальваецца.

— Што з імі рабіць? Куды дзенеш? У Нараў не зацягнеш. Адабраць зямлю, трэба даць апеку. Апекавацца людзі не хочуць. «Хай запіша на мяне, тады буду глядзець». Старому цяжка дагадзіць.

З аднаго боку гэта праўда. Але гэта ж чалавек, а не сабака.

Матвей Тафіла і яго жонка Нюра з Бацют без дапамогі і вады не прынясуць. А жыць трэба. Узялі яны на дапамогу дзяўчыну Зоську, суседку.

— Глядзі нас, дзіцятка,

(Працяг на стар. 5)

# ХТО ВІНЕН?

Працяг са стар. 1

чыць». І далей: «Я, будучы настаўніцай, не пакідала б (на другі год, — дапісак мой). Хочучы, можна гэтага дабіцца.

Хто вінен, што нашы дзеці сядзяць па некалькі год у адным класе? Хто вінен, што нашым дзецям пагражае непісьменнасць? Вось мой пункт гледжання ў кароткім зарысе на гэтую справу. Да школы дзіця прыходзіць у 7 год, да сямі год яно знаходзіцца пад апекаю бацькоў і пачатковае, прадшкольнае выхаванне яно атрымоўвае ад сваіх бацькоў. І ў залежнасці, якое гэта выхаванне, фармуецца характар гэтага дзіцяці, фармуецца той будучы вучань. І вось у астатніх пасляваенных гадах даецца заўважыць, што бацькі мала патрабавальныя ў выхаванні сваіх дзяцей. Якія ж прычыны гэтага? Вось некаторыя з іх, паводле маёй думкі:

1. У частых выпадках адно з бацькоў, або і абое працуюць, часта даязджаюць да працы, дзеці знаходзяцца на апецы дзеда ці бабулькі. У вольных ад працы хвілях гэтыя бацькі мала маюць часу, каб заўважыць дрэнныя бакі ў выхаванні дзіцяці, а на «дробныя» капрызы не звяртаюць увагі.

2. Мнагадзетныя сем'і, нават на вёсцы, з'яўляюцца сёння рэдкасцю: адно дзіця, двое, найбольш трое. Ці ж з «астатняга вока ў лобе» можна многа вымагаць?

Да адной з прычын можна залічыць і крыху пераўвялічваемую некаторымі нервовасць бацькоў, узнікшую ў сувязі з перажываннямі ў часе вайны, якая спадчынна перадавалася дзіцяці.

Выхаванае ў падобных абставінах дзіця бывае занядбанае, распешчанае, непаслухмянае, непакорнае, не відзячае ні ў кім аўтарытэту.

Заходзячы ў школу, яно адразу трапляе ў канфлікт з настаўнікам. Школа ставіць перад ім патрабаванні, якіх не патрабавалася ў хаце: паслушэнства, дысцыпліны.

«Трэба вучыцца вучыць», — піша ВЛ. Сам факт, што настаўнік з'яўляецца настаўнікам, сведчыць аб тым, што ён навучаны вучыць. Але не можам вымагаць ад кожнага настаўніка, каб ён быў Песталоцым ці Макарэнкам. Настаўнік «з добрага здарэння» — гэта рэдкасць. Рэшта — гэта людзі, маючыя і людскія нервы і людскія вымаганні. На дадатак, калі з гэтым настаўнікам не супрацоўнічаюць бацькі вучня, ён робіцца бяссільным у выхаванні гэтага вучня ў выпадку, калі вучань належыць да тых «упартых».

Каб мець уплыў на вучня, настаўнік павінен карыстацца аўтарытэтам, быць чымсьці вышэйшым у вачах вучня. Як жа часта за кепскую ацэнку ці за астаўленне пасля заняткаў бацькі ва ўчынку настаўніка бачаць нейкую варожасць у адносінах да сваіх дзяцей і неаднойчы дрэнна гавораць перад дзецьмі пра настаўніка, а нават бываюць выпадкі, што і публічна іх ругаюць, нягледзячы на тое, што гэтаму прыслухоўваюцца дзеці.

Дзеці нашыя не з'яўляюцца такімі выродкамі, каб амаль палова (ВЛ) заставалася на другі год у тым самым класе. Гэта мы, бацькі, у большасці выпадкаў праз сваю лёгкадумнасць даводзім іх да гэтага. Прыкладаў не трэба прыводзіць. Прыклады кругом, толькі трэба праўдзе смела глянуць у вочы. Цвёрдая рука, разумна прымененая, не скалечыць дзіцяці.

Астаючыся на другі год у тым самым класе, дзеці нашы не адчуваюць такой ужо вялікай крыўды (ВЛ). Яны адчуваюць крыўду пазней, тады, калі іх сябры прыедуць тэхнікамі ці педагогамі, пакончыўшы сярэднія ці вышэйшыя школы.

Тады яны адчуюць вялікую крыўду і спытаюць нас, бацькоў, чаму так сталася?..

Другагодніцтва — гэта ўжо праблема, гэта ў большасці выпадкаў невуцтва (ВЛ) і было б несправядлівасцю сказаць, што настаўнік у гэтай ненармальнай з'яве не вінаваты. Пры добрай ахвоце і ініцыятыве настаўнік можа многа зрабіць у напрамку ліквідацыі другагодніцтва.

Пры школах існуюць бацькоўскія камітэты — гэта найлепшы памочнік настаўніка. Там, дзе настаўнік не дасць рады, павінен звярочвацца за дапамогаю да бацькоў. Аднак на вёсках бацькоўскія камітэты — твор міністэрства асветы — фігуруюць толькі ў школьных пратаколах, практычна яны не праяўляюць ніякай дзейнасці. І вось калі б такім кругам, бацькі — настаўнік — бацькоўскі камітэт, акружыць вучня ў пачатковай школе, другагодніцтва паступова было б зведзена да мінімума. Дзіця — вучань як цягнік, бацькі і настаўнік — чыгуначная служба. На які тор будзе пушчаны цягнік, так ён і едзе. Памылка вядзе да катастрофы.

**КАСТУСЬ ПЭТЭЛЬСКІ**
Крушыняны.

# ГАЛЕНА, ЁЗІК І ДЗЕЦІ...

(Працяг са стар. 3)

Сумныя здагадкі перапыніла хвароба. Адбылася аперацыя, пасля якой занямог на доўгія месяцы.

Недзе пад весну Галена ізноў была ў шпіталі.

— Як здароўе? — спытаў.

— А табе што да яго?! — буркнула і па твары пракацілася грымаса гневу.

— Нічога, так хацеў даведацца...

Зіневіч пачаў працаваць вартаўніком у валілаўскай бетанярні. Работа лёгкая на сілу і на... кішэню. За дзевяцьсот злотых. Папрасіў у спулдзельчай касе пазыкі. Невялікую, да дзвюх з палавінай тысяч. Далі. Уцешаны, купіў веласіпед, каб мець на чым ездзіць да Валілаў; купіў парася на адкорм.

І так, хто ведае, як доўга жылі б ва ўзаемным затоеным падазрэнні, калі б Галена не наважылася адкрыта, пры ім заседжвацца да позна ў суседчыным шумным зборы мясцовай «залатой моладзі». Ёзік зашчапляў нанач дзверы, Галена ўлазіла акном. Урэшце пазабіваў цвікамі акно...

Скрытая недаверлівасць выбухнула ў яўную нянавісць. Жонка, маладзейшая ад мужа на трынаццаць год, прынялася дэманстраваць свае залётніцкія магчымасці; затое амаль пяцідзесяцігадовы муж толькі скрыгатаў зубамі і слядзіў. Зайздросна слядзіў нахабную чараду бязвусых пякуноў, якія нат' Буранцы ўжо добра надакучылі, бо выкарыстаць хочуць, а з падарункамі не надта квапяцца. Дарэмна пераняўся Ёзік пагаворкаю, што «сцеражонага Бог сцеражэ».

Сам не аглянуўся, як зайгралі між імі найзвычайнейшыя на свеце амбіцыі: хто каго кіне на калені? Або ён, Ёзік, даб'ецца таго, што Галена прызнае сваю віну, і папросіць прабачэння. Тады мужскі гонар быў бы ўратаваны... Або яна, Галена, пераможа хваравітага мужа, які пакорыцца ў яе ног і будзе благаць, каб кахала яго надалей! Тады ніхто не папракне ў здрадзе, двулічнасці... Праходзілі месяцы. Трывожныя, бяссонныя. Дзіўная вайна не сціхала. Наадварот, яе вогненнае зарыва ўсё больш чырванела, разгаралася. Распіўся Ёзік несамавіта. Не дае грошай на ўтрыманне. Галена прызвычаілася да жыццёвага балагану. Здаецца, так і быць павінна.

Ёзік першым не вытрымлівае. Шафу, што стаяла пад сцяною, перасоўвае на сярэдзіну пакоя, упоперак. Там хоча спаць — кут завешвае старымі фатаграфіямі, дыпломамі-абразамі. Жыве ўспамінамі, жыве даўно прайшоўшым і час ад часу вып'е «для падтрымання душы». Па другі бок шафы Галена, дочкі з прытворным спакоем чытаюць. Ёзікавы нервы здаюць.

— Рамансы жарыце... усё вам рамансы ў галаве!.. — крычыць і выкручвае лямпачку, размантоўвае патрон. Хавае. Святла няма.

Зюнё трымае бок бацькі. Крыстынка з Данкай заступаюцца за маці. Бацька з маці сварацца. Сястрычкі з брацікам сварацца.

Данка ўпартая:

— Есці хочаш? Няхай татка дасць табе есці! — крычыць на Зюня, махае маленькімі кулачкамі.

Зюнё пайшоў у школу галодны, брудны.

Прыходзіць Ёзік з працы ды пацяшае сына:

— Не плач... ну, не плач. Маеш, вось, пяць злотых... Баршчу зараз нагатую...

Зюнё, можна сказаць, задаволены. На другі

(Працяг на стар. 5)

---

(Працяг са стар. 3)

— Няма дзяцей, ёсць дарослыя нахлебнікі.

— Аб кім ты?

— Афіцэры ў іх жывуць. Два афіцэры. Гасцініцу разбамбілі. Вось да іх і пасялілі двух. І сцірай на іх, і гатуй. — Лізель уздыхнула. — Праўда, сёння, здаецца, павінны былі выбрацца.

Ланге аблегчана ўздыхнуў. Не мог устрымаць уздыху і Аскер.

Ён сказаў:

— Мы хочам папрасіць вас схадзіць да Берты Шталекер. Пагаварыце з ёй, пацікаўцеся, ці будуць у іх жыць іншыя афіцэры.

— Зараз?

— Калі ласка. Толькі не затрымлівайцеся. Мы чакаем вас.

Лізель зноў пакінула дом.

Калі яна вярнулася, Герберт заканчваў брыццё. Аскер драмаў. Скрыпнулі дзверы. Аскер ускочыў на ногі.

— Гэта я, — сказала Лізель. — У Шталекераў усё ў парадку. Берта адна ў хаце. Гасцей больш не прадбачваецца.

— А Ота? — спытаў Ланге.

— Ён на заводзе.

І Лізель пачала скідаць плашч.

71

— Не распранайся. — Герберт падышоў, ласкава крануўшы руку жонкі. — Вельмі змучылася?

— Не, што ты.

— Тады давядзецца выйсці з хаты яшчэ раз. Але гэта — апошні.

— Мы просім вас пазваніць на завод, — сказаў Аскер. — Званіць трэба не з аптэкі ці, скажам, з магазіна. Толькі з будкі, каб вас не чулі іншыя, зразумелі?

— Так.

— З будкі, — паўтарыў Аскер. Ён звярнуўся да Герберта. — Цяпер гавары ты.

— Пазвоніш у трэці цэх і папросіш, каб паклікалі да тэлефону механіка Ота Шталекера. Яму скажаш: «Гаворыць Лізель. Вы мне вельмі патрэбны. Чакаю вас ля варот завода праз пятнаццаць мінут». Паедзеш туды, сустрэнеш яго і вытлумачыш, што я вярнуўся, і Ота павінен неадкладна пасля работы прыйсці да нас дамоў. І хай нікому не гаворыць аб гэтым. Усё зразумела?

— Так, Герберт.

— Ну, ідзі.

Лізель у трэці раз пакінула дом.

Для Аскера і Ланге зноў паплылі мінуты нясцерпнага чакання.

(Працяг за тыдзень)

72

 

## МІЛЬЁНЫ І ЗДАРОЎЕ ДЛЯ ВЁСКІ

(Працяг са стар. 1)

Ї месца ў ваяводстве. Пачатковая 4-класная школа ў Багоніках заняла чацвёртае месца ў краіне. Выпала ў іх па 122 злотых на вучня.

— А скуль жа яны ўзялі столькі грошай?

— З розных платных урачыстасцей, арганізаваных школай, з працы грамадскім чынам, з забавы для дарослых. Забава адбывалася пад сціслым наглядам школы і даход з яе быў прызначаны вучнямі і настаўніцай на СФОС.

— Мне хочацца запісаць прозвішча настаўніцы гэтай школы.

— Вельмі цешымся. Ямялкоўская. Школа яе за добрыя вынікі атрымала 4 тысячы злотых узнагароды. Хочуць за іх купіць швейную машыну для школы.

— Мо' яшчэ кару прыкладаў.

— Школа ў Нурцы (Бельскі павет), у Красных (Сакольскі), у Хілімонах (Дуброўскі), Педагагічны ліцэй у Бельску.

— Як думаеце выкарыстоўваць грошы?

— У нашай дзейнасці паявіўся новы галоўны напрамак: **будова вясковых пунктаў аховы здароўя.** Цяпер перад усім на гэта будзем націскаць. Сюды пойдуць грошы з даплат да гарэлкі. Вясковыя пункты аховы здароўя будуць будавацца ў першую чаргу там, дзе справы санітарыі і здароўя найбольш занядбаны. Размяшчэнне будоў на пасобныя гады яшчэ дакладна не распрацавана. Падамо вам пазней.

— А іншыя інвестыцыі?

— З большых — Дом тэхніка ў Беластоку — ужо далі 5 мільёнаў злотых, тэатр лялек «Свершч» — 7 мільёнаў, Дом культуры ў Бельску — 2,5 мільёна.

— Добрую справу робіце.

— Дзякуем за прызнанне. Калі вы так ветлівы, скажам вам яшчэ адно. Нашае ваяводства мае ўжо тэлебачанне. Ї то дзякуючы СФОС. Чаму? Каб не СФОС, тэлевізійная станцыя не была б у тэрміне закончана. Не было б грошай, нідзе. Мы — дошка ратунку. Ухапіліся за нас і цяпер усе задаволены. Мы таксама.

— Ї добра. Дзякую за размову.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

## МАЛАДОСЦЬ

(Працяг са стар. 3)

стадыёнам сталіцы Швейцарыі гучыць Гімн Савецкага Саюза ў гонар новага чэмпіёна Еўропы па бегу з перашкодамі. Анатоль Юлін — студэнт Беларускага інстытута фізкультуры прымае віншаванні ад сяброў...

З невялікага беларускага гарадка Крычаў на вучобу ў інстытут прыехаў сціплы юнак. Праз тры гады імя Міхаіла Крываносава прагучэла на ўвесь свет. Ён разам са сваім педагогам Яўгенам Шукевічам стварыў новую школу кідання молата і адкрыў рахунак сусветных рэкордаў.

Самай хуткай ланню кантынента назвалі сусветную рэкардсменку па бегу на кароткія дыстанцыі Марыю Іткіну — студэнтку Беларускага інстытута фізкультуры. Стакгольмскі стадыён даведаўся імя новай чэмпіёнкі Еўропы па бегу на 800 метраў студэнткі гэтага інстытута Елізаветы Ермалаевай. Хуткая і бязлітасная шпага Арнольда Чарнушэвіча праславіла Беларусь не адной перамогай. Дзве залатыя медалі чэмпіёна свету па класічнай барацьбе ўпрыгожваюць грудзі Алега Караваева. Нядаўна студэнт другога курса Аляксандр Мядзведзь у далёкім амерыканскім гарадку Таледа заваяваў званне чэмпіёна свету па вольнай барацьбе...

Ці ж можна пералічыць усе перамогі? За 25 год Беларускі інстытут фізкультуры падрыхтаваў каля 2,5 тысяч спецыялістаў фізічнага выхавання. Ён стаў буйнай навучальнай установай з добрай навучальна-спартыўнай базай і нядрэннымі ўмовамі для навукова-даследчай працы.

Яшчэ большыя перспектывы адкрываюцца перад інстытутам у будучыні. Заканчваецца будова новага вучэбнага корпуса з буйнейшай у горадзе залай гульняў, заламі гімнастыкі, боксу, фехтавання, барацьбы і цяжкай атлетыкі. У новым будынку знойдуць месца бібліятэкі, навуковыя лабараторыі, кіназала, аўдыторыі. У хуткім часе пачнецца будова новага сучаснага тыпу спартыўната павільёна, закрытая бегавая дарожка і сектары для кідання і скачкоў.

Беларускі інстытут фізкультуры нядаўна адзначыў свой 25-гадовы юбілей. 25 год — гэта маладосць. Ён яшчэ шмат можа зрабіць на славу савецкага спорту і здароўя чалавека.

**Д. БОЛДЫРАЎ**

## Дуброўскія аграномы

На Дуброўшчыне ўсё больш разгортваюць сваю дзейнасць сельскагаспадарчыя гурткі. Дзе сельгасгурток, там і аграном неабходны. Гурткоў усё больш, а аграномаў не хапае. Сельскагаспадарчы тэхнікум, які існуе ў Ружаным Стоку, спецыялістамі па сельскай гаспадарцы забяспечвае не толькі Дуброўскі павет, але ўсю Беласточчыну. З Дуброўскага павета ўсё яшчэ невялікая колькасць вучняў у гэтым тэхнікуме. Чаму? Мо' дрэнныя метады рэкрутацыі?

У Дуброўскай ГС працуюць дзве маладыя дзяўчыны. Адна з іх — Альбіна Біркос нейкі час таму назад закончыла сельскагаспадарчы тэхнікум у Ружаным Стоку. Другая — Галена Дзеніс закончыла такі ж тэхнікум у Дайлідах. Што яны робяць у ГС? У асноўным выпісваюць квітанцыі сялянам на вугаль.

— Працаўнікі з іх нядрэнныя, — сцвярджаюць кіраўнікі ГС. — І пішуць прыгожа, не падкапаешся да гэтага.

Нічога дзіўнага, — скажам, — пасля чатырох гадоў навукі ў сельскагаспадарчым тэхнікуме пісаць навучыцца можна. Шкада, што ў гэтых тэхнікумах не вывучаюць такі прадмет, як амбіцыя.

І так у Дуброве сельскагаспадарчыя ўлады наракаюць на недахоп спецыялістаў, а спецыялісты побач... выпісваюць квітанцыі. Здорава, што?

Таксама, як і ў другіх паветах Беласточчыны, на Дуброўшчыне пачалі будаваць агранамоўкі. У 1961 годзе. Колькі іх пабудавана? Тры, але... Вось гэты але! Ніводная з іх не закончана. Ужо трэці год сакольскае будаўнічае прадпрыемства ніяк не можа выканчыць гэтых, здавалася б, не так ужо і хітрых пабудоў. Ці ж фінансавы аддзел не можа знайсці пакарання на недатрымоўванне тэрмінаў пабудовы? Аграном жа цяпер без агранамоўкі, як без рук.

**В. Баршчэўскі.**

## ГАЛЕНА, ЁЗІК І ДЗЕЦІ...

(Працяг са стар. 4)

дзень настаўнік знайшоў у яго кішэнях папяросы, крыху цукерак, рассыпаныя запалкі...

Крыстыны шаснаццаць год, але за ціхай мамчынай згодай не прапускае гарластых гарадоцкіх забаў. Крыстынка — вучаніца. Штодзень ездзіць валілаўскім поездам у Беласток, у Эканамічны Тэхнікум. Класны кіраўнік здзіўляецца:

— Штосьці яна ў мяне задуменная стала, зусім неразгаворлівая. Ї ў навуцы моцна, ой, моцна запусцілася.

Ці ў апраўданне Крысі сказаць яму пра тое, што яна не магла вучыцца лепей, бо зноў бацьку судзілі нядаўна. Маці біў ён нагамі і яе па шчацэ «пацнуў». Сведкай на тым судзе выступала з Данкаю і Зюнё таксама... Суддзя вычытаў кару на год з завяшэннем на тры гады.

* ✲ *

У старожцы, дзе вартуе Ёзік, цёпла. Копціць жалезная печка, па-над ёю вісіць зморшчаная бялізна. Сам мые ўсенька... Ля акна стаіць стол, на ім многа крайчакоў розных размераў. Гатовенькія, высыхаюць. На продаж! Ля дзвярэй выгібаецца бярэмя стрункіх лазнякоў, перахіліўся недароблены зелянюткі кошык. Таксама на продаж!

— Кот жыве, сабака жыве, — Ёзік апусціў галаву і ўтаропіўся на паперку ад каморніка, у якой чорным па белым выкаліграфавана, што павінен сплаціць дзесяць тысяч дзяржаўнага доўгу з часоў, калі працаваў у мясцовым ГС-е і за недагляд фінансаў трапіў у турму. Адсядзеў прысуджанае ўчціва, але доўг застаўся. Размеркавалі ратамі па дзвесце злотых кожная. А тут яшчэ пазыка не сплачаная!.. У канцы канцоў на руках застаецца не больш, як пяцьсот злотых месячнай платы. Не прызаробіш па баку — не пражывеш.

Тым часам Галена падала справу аб аліментах. Ёзік яе муж. Але толькі фармальна...

**Кастусь ЯНКОЎСКІ**

## З пісем землякоў

## ЗНАЁМАЯ

Усё дапытваешся пра жыццё нашае на васьмушцы зямлі пясчанай? От, сама ведаеш, цяжка канцы з канцамі звесці пры гэтакіх летах неўрадлівых. Бульбу вымачыла дарэшты, што каля лужочка альшынавага пасадзілі; увосень жыта там пасеялі, мо' якая карысць летась выйдзе, бо ж штогод не павінны дажджы безустанку заліваць свет няшчасны. Кажуць, калі зіма марозная, дык жніво гарачым будзе...

А цяпер падзарабіць стала магчымым, якраз ходнікі такія каляровыя ў мястэчку жонд купляць пачаў. Чула, кудысьці ў Амерыку нават высылаюць, дзе людзям заграніччным надта падабаюцца паласянкі вясковыя. За тыдзень натку ўсенькіх розных многа ды ў чацвер тарговы папру да купца прыезджага, які і па-нашаму ўжо навучыўся слоўцаў пару закінуць, ветлівы гэтакі ён і далікатны. Бабаў адусюль поўна ў яго назбіраецца, іголкі нідзе не ўваткнеш, каб і хацеў. Каторая цаніцца задумае, пралапоча часу невядома колькі, аж ногі каламі пастануць ад стаяння доўгага. За адзін дзень не паспее тавару скупіць, хоць ты валачыся назад да хаты з тканінаю цяжкаю.

Раз і мне нядаўна даялося, што пакуль дачакалася чаргі сваёй ды і на двары сцямнелася. А той купец гаворыць, каб іншым разам наведаць, бо на поезд ужо ісці мус яму і ехаць. Як на тое, Надзю знаёмую напаткала на вуліцы, здаўна жыве яна тут. Згаварыліся пра бабіны справы гандлёвыя, а Надзя і раіць пакінуць у яе клунак, значыць, не цягнуцца блізкі свет з ходнікамі. Думаю, то ж праўда, чаго мучыцца бы грэшніцы астатняй, няхай паляжаць, прыду і прадам без спеху ніякага. Так яно і было.

На торг другі яшчэ на досвітку рушыла, ранкам забубніла ў Надзінае акно. Крычу праз шыбу, ходнікі хутчэй падай, дарагая, а то, пэўна, краму адчынілі і народу шмат натоўпіцца. Бачу, толькі што з ложка яна схапілася, але чамусьці вочы як бы хавае паміж ёлкі ледзяныя? Цюкнула нядобрае прадчуванне. Ажно, чую, сапраўды яе голас кажа, няма тваіх ходнічкаў, укралі якісьці жулікі; пазаўчора з сенцаў прапалі, што нат' не зглядзелі, калі гэтак ціха падседзелі, каб на іх немач халерная надышла... Даведаўшыся такое, млеўка зрабілася ўмомант, сэрца пад горла падступіла і духата напала вялікая, хаця маразішча пёк не абы-які. Загінула ж праца мая, о, гора ты непацешнае! Што чыніць? Відаць, суджана было не зарабіць нічагуткі перад пастом вялікадным. Іду на рынак, бы спутаная, можа хто-лень з фураю выбіраецца ў наш бок кормніка прадаўшы, падвёз бы хоць да дарог расстайніх. Не дайду адна да вёскі праз далечынь заснежаную такую і з каменем халодным на душы змучанай.

Праходжу ля той крамы купцовай, бо іншай дарогі няма, галаву ў бок адварочваю, каб людкове не смяяліся, але раптам барабаніць хтосьці пальцамі па вітрыне шкляной і на мігі нешта махае. Вытрашчыла я вочы, думаю, хто тут ламочацца, быццам шалёны?! Прыглядаюся, купец выфранчаны гарачыцца з чымсьці да мяне. Уваходжу, а ў краме кабеты дарогу адразу даюць, усё роўна як начальніку пузатаму. Ён зараз жа пытае, ці вашы гэта ходнікі і паказвае мне іх. Астаўбянела зусім, сама сабе не веру, а як жа, мае ходнікі на прылаўку скручаныя. Тут купец і сказаў, што прынесла іх ранютка жанчына нейкая і калі спытаў яе колькі тут метраў, яна не ведала. Тады яму адразу здалося, значыць, падазроным усё гэта, але нічога ёй не гаварыў такога, квіт выпісаў, папрасіў, каб адвячоркам прыйшла па грошы, бо нібы не меў яшчэ...

Ї падумай, мілая мая, па выплату ўвечары прыйшла Надзька, гэта бессаромная гніда і зладзейка! Паршывая камбінаторка, як суседзі цяпер пераказваюць, агідная вельмі асоба. Чужою працай любіць усё багацець. Шкадую моцна, чаму не наважылася з месца міліцыяй пакараць прыблуду раскудлачаную, замала валасоў выскубала зразу... трэ' было бельмакі вылупіць ашуканцы зайздроснай!

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

## ЯНЫ АДЖЫЛІ СВОЙ ВЕК

(Працяг са стар. 4)

запішам табе ўсю маёмасць гаварылі.

Што ж, думаеце, ласомы кавалак. Глядзела, рабіла. Матвей як мужчына інакш адносіўся. Як згатуе, так добра. Нюры не падабалася. За многа варыць мяса, не ашчаджае. Паявіліся спрэчкі, узяла ды кінула. Пасля быў Ліпінскі, крыху сваяк. Ужо і хату хацеў будаваць, бо Матвей пляц даваў. Таксама не пагадзіліся. Матыс з Завад судзіўся з Тафілам, што за работу не заплаціў.

Знайшліся людзі з Бакін. Што ж, думаюць, старыя доўга не нажывуць, а гаспадарка дарма застанецца. Калі прыехалі ў ГРН Завады, каб тая як-небудзь дапамагла ім абняць апеку над старымі, Васілеўскі адрэзаў з месца:

— Тут і без вас былі. Калі не хочуць запісаць, хай падыхаюць.

Лёгка сказаць маладому чалавеку: «Хай падыхаюць». Гэта ж не звер, а чалавек. А запісы вядома якія сёння. Родныя дзеці не хочуць глядзець, а што гаварыць аб чужых?

**БРАК ЗАЦІКАЎЛЕННЯ**

У сучасным жыцці чалавек тады працуе, калі бачыць у гэтым нейкую карысць. Часта так бывае, што за гэтымі карысцямі не бачым чалавека, а толькі яго маёмасць, каб танным коштам забяспечыць сабе дармовае карыта. А «без працы, няма чаю і хлеба шукаці», як гаворыць пасловіца. Да таго грамадскія рады надта мала цікавяцца лёсам старых. «Не плацяць падатку, то не плацяць, добра што да нас не ідуць за дапамогай».

А такая дапамога павінна быць. Не толькі павінна быць, але і ёсць. Толькі што яе атрымлівае не заўсёды той, каму яна патрэбна. Часам старыя людзі, не маючы ніякіх сродкаў да жыцця, хапаюцца за зусім брудныя справы: гоняць самагонку ці гандлююць водкаю, бо чалавек мусіць з чагосьці жыць, жыўцом не закапаецца ў зямлю. А нам, маладым, здаецца, што мы ніколі не пастарэем, і на нас ніхто не скажа, што непатрэбны, бо аджыў ужо свой век.

**К. КАЛІНА**



 

